ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА • NO.25 (3145) • ЧАЦВЕР, 9 ліпеня, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY













# Свята роднай зямлі

3-га ліпеня Беларусь урачыста адзначыла Дзень Незалежнасці і 65-годдзе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў



БЕЛТА



ВІТАЛІЙ ГІЛЬ

НІКОЛІ НЕ ЗАБУДЗЕМ

## Вольга Лакцеева: "Дальвы няма ўжо 65 гадоў, але тут для мяне ўсё жывое…"

19 чэрвеня 1944 года фашысты ўварваліся ў вёску Дальва і зажыва спалілі ўсіх яе жыхароў. Гэта была апошняя з 628 беларускіх "вогненных вёсак" Вялікай Айчыннай вайны, якія паўтарылі трагічны лёс Хатыні.

**Уладзімір Падаляк**

Тады пашчасціла выжыць толькі 13-гадоваму падлетку Мікалаю Гірыловічу. Ён і сам лічыў, што цудам выратаваўся ад пагібелі. Мікалай Пятровіч часта ўзгадваў апошні страшны і незабыўны дзень вёскі:

*"На досвітку 19-га бацька павёў пасвіць каня, кіламетры за два ад вёскі. Маці разбудзіла мяне, каб падмяніў бацьку. Сонца толькі ўзыходзіла, мы з маці басанож ішлі па роснай траве, пакідаючы на ёй прыкметныя сляды.*



Дачка і жонка Мікалая Гірыловіча парадніліся з Дальвай

*Як цяпер памятаю — бацька з маці адыходзілі ў Дальву, таксама пакідаючы сляды на расе...*

*Праз нейкі час пачуў выбух і аўтаматныя чэргі. Узяўся расп утваць каня — ён быў спутаны жалезным путам, — але не атрымалася.*

→ Стар. 2

ВЕСТКІ

## Нашчадкі павінны ведаць

**Шматтомны зборнік пра гісторыю Беларусі ў гады Другой сусветнай вайны будзе выдадзены ў Мінску**

Па словах навуковага сакратара Інстытута гісторыі НАНБ кандыдата гістарычных навук, дацэнта Марата Жылінскага, гэта будзе першае выданне такога маштабу, якое прысвечана Беларусі ў гады Другой сусветнай вайны. Рашэнне аб стварэнні гісторыі было прынята на навукова-практычнай канферэнцыі, якая прайшла ў Мінску і была прысвечана партызанскаму руху ў Беларусі.

"Падобнае шматтомнае выданне будзе вельмі запатрабавана не толькі ў Беларусі, але і ў свеце", — лічыць вядучы навуковы супрацоўнік аддзела ваеннай гісторыі і міжнародных зносінаў Інстытута гісторыі Уладзімір Кузьменка. Ён адзначыў, што такая ініцыятыва паспрыяе распаўсюджванню праўдзівай інфармацыі аб ролі Беларусі ў Другой сусветнай вайне. Вучоныя-гісторыкі ў бліжэйшым будучым таксама плануюць выдаць ваенную энцыклапедыю, прысвечаную войнам і канфліктам, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі.

## Цытадэль над Бугам

**Жанна Калеснікава**

**Пачаліся здымкі поўнаметражнага фільма "Брэсцкая крэпасць"**

Самі стваральнікі фільма адзначаюць, што праект "Брэсцкая крэпасць" вельмі складаны па сваёй вытворчасці. Спецыяльна для гэтага фільма пабудавалі мноства дэкарацый. У цытадэлі з'явіліся кардонныя "цагляныя" сцены, клуб, мост, разбураныя падчас ваенных дзеянняў.

У фільме задзейнічана вялікая колькасць тэхнікі. Значнай будзе здымачная група: каля 70 чалавек з беларускага боку і прыблізна столькі ж — з расійскага.

Карціну плануецца выпусціць у наступным годзе. Чакаецца, што на экраны фільм "Брэсцкая крэпасць" выйдзе да Дня Перамогі.

Рэжысёр гэтага фільма — Аляксандр Кот. Карціна задумана як поўнаметражны фільм-рэканструкцыя, асноўнымі дзеючымі асобамі якога будуць рэальныя героі, абаронцы Брэсцкай крэпасці.

# Сімвал непераможнасці

Дастаткова вымавіць: "Крыж Ефрасінні Полацкай" і адразу перад вачыма паўстане выява знакамітага артэфакта, вырабленага полацкім майстрам Лазарам Богшай. Эпітэт "каштоўны" да ўзору ювелірнага майстэрства сярэднявечча не перадае ўсю значнасць крыжа. Найбольш трапна падыходзіць да яго выраз Сімвал. У гэтым можна было пераканацца напярэдадні святкавання 65-годдзя вызвалення Беларусі, калі прайшоў Хросны ход узноўленага Крыжа Ефрасінні. Адзін з самых узнёслых сімвалаў краіны сабраў вакол сябе людзей, каб яшчэ раз узгадаць пра духоўную повязь часоў.

**Дзмітрый Альфер**

Так, пакуль што невядома, дзе знаходзіцца полацкі Крыж святой Ефрасінні, выраблены ў дванаццатым стагоддзі. Знік ён якраз у часы другой Сусветнай вайны. Пошукі помніка сярэднявечнага мастацтва працягваюцца і па сённяшні дзень. Хутчэй за ўсё, рэліквія была вывезена з краіны. Між тым, як неаднаразова ўзгадвалі ва ўспамінах самі ветэраны, менавіта ў выпрабавальны для людзей час вера дапамагала супрацьстаяць ворагу. Таму ў Вялікую Айчынную некаторыя салдаты сапраўды насілі пад армейскай вопраткай нацельныя крыжыкі. Іх ўспрымалі не проста як хрысціянскі вобраз, а яшчэ як цудадзейны талісман, які даваў уладальніку надзею ў непераможнасць, пазбаўляў ад страху ў час бою. І ў гэтыя ўрачыстыя дні, калі ў Беларусі адзначаецца 65-годдзе вызвалення, міжволі ўзгадваеш пра моц чалавечага духа. Менавіта сярод людзей ваенных, калі дакладна, то ў Дзяржаўным пагранічным камітэце была выказана ідэя аб Хросным ходзе Крыжа Ефрасінні. І хоць тагачаснай рэліквіі дагэтуль няма, яе дакладная копія, вырабленая напрыканцы дваццатага стагоддзя мастаком Мікалаем Кузьмічом, увасобіла ў сабе ўвесь сэнс працы колішняга майстра Богшы. Так, памяць аб старажытным артэфакце захавалася, яна жыве ў сэрцах. Гэта і было відаць у час Хроснага ходу. Упершыню ўзноўлены Крыж быў вынесены з полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра, каб пачаць свае пачэснае вандраванне. На ўсім шляху да ваенных і святароў далучаліся людзі, якія прыйшлі пакланіцца рэліквіі. Яе неслі на руках, везлі на машынах, а то і перапраўлялі на верталёце. Шэсце ж адбылося ў гонар не толькі пераможнага вызвалення Беларусі, але і з нагоды 25-годдзя з дня заснавання Сабора беларускіх святых. Людзі прыходзілі і дзеля таго, каб ушанаваць памяць аб ахвярах вайны. Хросны ход ахапіў вялікія і малыя гарады краіны — Гродна, Ліду, Смаргонь, Брэст, Пінск, Верхнядзвінск, Паставы, Гомель, нарэшце дабраўся да Мінска, дзе ля Нацыянальнай біблітэкі будучыя афіцэры-пагранічнікі прынялі асвячэнне ад Крыжа.



**У час Хроснага хода пакланіцца Крыжу Ефрасінні Полацкай прыйшло шмат ваенных**

У часы вайны мужнасць немагчыма аддзяліць ад веры — у сябе, у справядлівасць. І 65 год таму, і сёння яна дапамагае вайскоўцам у службе. А Крыж, як адзін з вобразаў айчыны, дае ім упэўненасць у сябе. Дарэчы, у родны Полацк рэліквія вярнулася другога ліпеня, напярэдадні святкавання вызвалення Беларусі ад фашысцкай навалы. Там Крыж святой Ефрасінні Полацкай і будзе знаходзіцца пастаянна, каб заўсёды засцерагаць ад бяды.

**НІКОЛІ НЕ ЗАБУДЗЕМ**

## Вольга Лакцеева:
# "Дальвы няма ўжо 65 гадоў, але тут для мяне ўсё жывое…"

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)**

*Пабег у вёску без каня — гэта мяне і выратавала, інакш бы апынуўся ў Дальве ў той момант, калі немцы рабілі сваю чорную справу... Я прыбег агародамі, праз жыта — дзверы ў хаце адчыненыя, лётае пух ад падушак, пабітае шкло. А на стале лыжкі раскладзены... Выбег з хаты — нікога навокал, толькі праз дым убачыў у канцы вёскі дзве крытыя машыны. Мусіць, думаю, забралі людзей. Але не, аднавяскоўцы загінулі ў агні...*

*У маёй памяці да гэтага часу жах таго страшнага чэрвеньскага дня, чорнага панядзелка, калі Дальва памірала — памірала пакутліва, цяжка... Яшчэ і назаўтра, і на дзесяты дзень над папялішчам стаяў густы цяжкі пах. Ветрам яго даносіла да блізкіх і далёкіх вёсак. Не даваў дыхаць гэты пах смерці і гора».*

Увесь боль той трагедыі выліўся не толькі ў кнігу "Дальва — сястра Хатыні", але і ў пабудову помніка сваёй загінулай "малой радзіме". Пасля вайны на месцы спаленай вёскі жыццё так і не адрадзілася. Але Дальва засталася — як вёска-помнік. У 1973 годзе быў адкрыты мемарыял «Дальва». Ён узводзіўся «на грамадскіх пачатках»: дзяржаўнага фінансавання не было. Ініцыятарам і «матором» гэтай справы быў Мікалай Гірыловіч. Моладзь пры падтрымцы ЦК камсамола Беларусі збірала сродкі, стварылі праект мемарыяла і працавалі на яго ўзвядзенні: школьнікі, студэнты, вайскоўцы... Дарэчы, сам аўтар мемарыяла ў Дальве, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, скульптар Уладзімір Церабун, тады быў студэнтам тэатральна-мастацкага інстытута.


**Штогод у чэрвені ля мемарыяла шматлюдна. Так было і сёлета**

Цяпер Дальва — філіял мемарыяльнага комплексу "Хатынь". Не так даўно Мікалай Пятровіч пайшоў з жыцця. Памяць Дальвы, радзімы мужа, свята захоўваюць жонка Рыма Ігараўна і дачка Вольга. Жыццё распарадзілася так, што Вольга Лакцеева цяпер жыве ажно ў Аўстраліі, у самым вялікім горадзе гэтай краіны Сіднеі. Але штогод у чэрвені яна прыязджае ў Беларусь. Каб абавязкова патрапіць на мітынг-рэквіем, які традыцыйна праходзіць у канцы чэрвеня ў Дальве.

*"Шлях у Беларусь нялёгкі: дзень лячу да Банг-кока, потым 12 гадзін да Франкфурта, а там ужо нейкія пару тысяч кіламетраў застаецца, амаль што дома, — гаворыць Вольга Мікалаеўна. — Кожны год я прыязджаю ў Беларусь, а калі атрымаецца, дык і два разы на год. Гэта ж мая Радзіма! Але ў першую чаргу мяне цягне сюды, у Дальву. Тут я сапраўды дома, тут для мяне ўсё жывое: дрэвы, трава, возера — усё з табою размаўляе. І сапраўды, я з Дальвы… Прыехаць сюды — значыць супакоіць душу. Мне вельмі прыемна, што кожны год на мітынг прыязджае шмат людзей. Гэта мае сябры, родныя, моладзь, якія шануюць памяць тых, хто загінуў у той жудаснай вайне. З дачкой Ганнай (яна названа ў памяць аб загінулай у вогнішчы маёй бабулі) у Аўстраліі мы часта размаўляем на роднай мове, успамінаем Беларусь, майго бацьку… Штодзень я званю сваёй матулі, сябрам. Не магу пражыць ні дня, каб не пераканацца, што тут, на Радзіме, усё добра. Дзякуй тым, хто помніць і шануе памяць дальвінцаў".*

Апошнім часам у некаторых краінах узнікаюць спробы перапісаць гісторыю Другой сусветнай вайны. Сорамна за людзей, якія руйнуюць помнікі савецкім салдатам. Як хутка некаторыя забываюць гісторыю! Нюрнбергскі трыбунал прызнаў фашызм злачынствам супраць чалавецтва. І трагедыя Дальвы — яскравае сведчанне гэтага. Варта помніць пра тое, што было ў сапраўднасці, — помніць, што расказвалі нам нашы дзяды і прадзеды. І тады ніхто не зможа перарабіць гісторыю на свой лад.

# Трываласць грунтуецца на сяброўстве

**Эдуард Півавар**

**Сотні гасцей прыйшлі ў Маскве на прыём у гонар 65-годдзя вызвалення Беларусі**

Адзначыць знамянальную дату і Дзень Незалежнасці Беларусі ў дыппрадстаўніцтве сабралося шмат вядомых гасцей. У іх ліку былі першы віцэ-прэм'ер Расіі Ігар Шувалаў, мэр Масквы Юрый Лужкоў, першы намеснік міністра замежных спраў Расіі Андрэй Дзянісаў, старшыня Цэнтрвыбаркама Уладзімір Чураў, палітыкі Генадзь Селязнёў, Сяргей Бабурын і іншыя. Сярод дзеячаў культуры вылучалася група беларусаў, якія жывуць у Расіі, — Анжаліка Агурбаш, Дзмітрый Калдун, Руслан Аляхно, Эдуард Ханок.

Вітаючы гасцей, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Расіі Васілій Даўгалёў падкрэсліў, што старонкі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны — гэта агульная гісторыя беларусаў і расіян, якая назаўжды аб'яднала народы дзвюх краін. Ён нагадаў, што Беларусь у гады вайны панесла самыя страшныя страты, таму ідэі суверэнітэту і незалежнасці з'яўляюцца для беларусаў святымі.

"Мы рашуча асуджаем спробы перапісаць гісторыю", — падкрэсліў пасол.

Дыпламат адзначыў, што Беларусь праводзіць шматвектарную палітыку, аднак асобыя цесныя адносіны звязваюць краіну з брацкай Расіяй. "Нягледзячы на крызіс, Беларусь і Расія працягваюць рэалізоўваць буйныя сумесныя праекты, саюзныя праграмы", — сказаў Васіль Даўгалёў.

На Капыльшчыну мяне зазвычай запрашае слынны наш літаратурны крытык, гістарычны пісьменнік, краязнавец Алесь Марціновіч. Нарадзіўся ён на Случчыне. А пасля бацькі (яны працавалі настаўнікамі) пераехалі на Капыльшчыну. І Алесю ў маладыя гады і пазней давялося часцей наведвацца ў Капыльскую старонку. І кнігу пра сваю "другую радзіму" напісаў. Называецца — "Ля Каменкі бруістай". Выйшла ў сімпатычнай серыі выдавецтва "Полымя" — "Па роднаму краю". Друкаваліся пад гэтымі серыйнымі вокладкамі Міхась Ткачоў, Генадзь Каханоўскі, Алег Трусаў, Міхаіл Мельнікаў, Алег Тарыкаў ды шмат хто яшчэ з аўтараў дасведчаных і аўтарытэтных. Алесь Марціновіч сабраў і гісторыка-дакументальную хроніку Капыльскага раёна "Памяць", аддаўшы гэтай няпростай працы некалькі гадоў жыцця. Ведаю, што хапае ў дасціпнага літаратара і іншых капыльскіх сюжэтаў. Мо з часам з'явіцца яго асобная кніга пра слаўных ураджэнцаў Капыльскай стараны?...

# Знічкі Айчыны


Пасёлак Гразавок



Капыль. Мітынг. 1932 г.

Алесь Карлюкевіч

Што ні кажы, Капыльшчына — адметная, багатая на знакамітасці зямелька. Празаікі, паэты, мастакі, дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, знакамітыя вучоныя, артысты, военачальнікі, падарожнікі…

У Казахстане і сёння ў вялікай пашане ў вучоным свеце імя Адольфа Янушкевіча. Нарадзіўся ён, праўда, у Нясвіжы, але маленства, дзяцінства правёў у Капылі. Дакладней — у маёнтку Усава каля Капыля. За ўдзел у паўстанні 1830-31 гадоў быў арыштаваны і высланы ў Сібір. Пасля таго, як адбыў тэрмін пакарання, шмат падарожнічаў па Казахстане. Збіраў памяткі матэрыяльнай культуры казахаў, вывучаў этнаграфію і фальклор насельнікаў далёкага ад Беларусі краю.Толькі ў 1856 годзе, калі стаў дрэнна пачувацца, вярнуўся на радзіму. Праз год памёр. Сябры парупіліся пра захаванне рукапіснай спадчыны таварыша па нацыянальна-вызваленчай барацьбе. У 1861 годзе ў Парыжы выходзіць двухтомнік на польскай мове — "Жыццё Адольфа Янушкевіча і яго лісты з кіргізскіх стэпаў". У 1966 годзе другі том перавыдадзены на рускай мове ў Алма-Аце.

У Капыльскім раённым краязнаўчым музеі знаходзіцца нямала матэрыялаў, якія расказваюць пра повязь з Капылём і Капыльшчынай майстроў прыгожага пісьменства. У лістападзе 1887 года ў мястэчку нарадзіўся Цішка Гартны. Відаць, і дагэтуль мы яшчэ да канца не ўсвядомілі , якога масштабу асоба згарэла ў віхуры сталінскай крывавай бойні. Удзельнік рэвалюцыйных падзей у 1905–1907, ён, Цішка Гартны, яшчэ ў 1912–1913 гадах пачаў актыўна выступаць у друку. Першыя вершы і нарыс пра гарбароў былі надрукаваны ў газеце "Праўда". Праўда, вопыт карэспандэнцкай і палітычнай работы меў і раней. Яшчэ ў 1911 разам з паплечнікамі па рэвалюцыйнай барацьбе выдаў у Капылі часопіс "Голас низа". Захаваліся чатыры нумары выдання — 1, 2, 3 і 10-ы. Ураджэнец Капыля паэт Алесь Гурло ўспамінаў пра капыльскія рэвалюцыйныя выданні (быў яшчэ і часопіс "Заря"): "… гэтыя часопісы, апрача свайго непасрэднага прызначэння — агітацыі сярод шырокіх мас — былі ў некаторай ступені і літаратурнай школай". Зміцер Жылуновіч (сапраўднае прозвішча легендарнага капылянін) друкаваўся пад псеўданімамі Капылянін, Шулятнік. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі наш зямляк быў прызначаны сакратаром Беларускага нацыянальнага камітэта пры ўрадзе РСФСР. Рэдагуе газету "Дзянніца". У студзені — на пачатку лютага 1919 года Цішка Гартны быў першым старшынёю ўрада Савецкай Беларусі. Свой першы раман — "Сокі цаліны" — пісьменнік напісаў яшчэ ў дарэвалюцыйныя гады. У 1928 годзе Зміцера Жылуновіча выбіраюць акадэмікам Акадэміі навук БССР. А пасля — забыццё і заўчасная смерць…


Капыль. 1918 г.


Капыль. Першамайскае свята. 1920-ыя гады


Капыльскія дзяўчаты ў святочны дзень. Пачатак XX ст.

У капыльскай вёсачцы Кукавічы ў 1871 годзе нарадзіўся паэт Лявон Лобік, якога Максім Багдановіч вобразна назваў "паэтам-земляробам". Да нашага часу фактычна дайшоў толькі адзін верш Лявона Лобіка. Змешчаны ён у анталогіі "Беларуская дакастрычніцкая літаратура". Няўрымслівы быў капылянін у пошуках лепшай долі беларусаў. Аднойчы ён напісаў у "Нашу ніву" наступны допіс: "Шмат чаго крые наша зямля ў сваім нутры, і што ў ёй ёсць, ніхто не ведае. Вось каб у нашым павеце вучоныя прагледзелі зямлю, то ў ёй пэўна што знайшлі б шмат чаго цікавага і карыснага для людзей. Я хачу сказаць аб тым, што месцамі грунт дае ўраджай без навозу да 25 гадоў, а гэта знак таго, што тут у зямлі ёсць нейкія мінералы. Напрыклад, апавядае жыхар вёскі Круцоўшчыны Іван Ліхадзееўскі, што недалёка ад іх вёскі ва ўрочышчы "Вузкія" некалі капалі зямлю пад стоўбікі і знайшлі слой солі, толькі чырвонага колеру, соль жа былі адкапалі і каля вёскі Цяпры, Грыцэвіцкай воласці…" Прыйдзе час — і не так ужо далёка ад гэтых месцаў пачнецца прамысловая распрацоўка калійнай солі.

А ў Сярэдняй Азіі пра вызваленне народа ад сацыяльнага гнёту рупіўся другі капылянін — ураджэнец вёскі Быстрыцы Сяргей Малібожка. Сюды малады афіцэр Малібожка патрапіў па накіраванню ў 5-ы запасны Сібірскі полк. Праз салдат пазнаёміўся з лідэрам мясцовых бальшавікоў Якавам Жытнікавым. З прыходам Савецкай улады быў абраны старшынёю Асхабадскага савета (сталіца Закаспійскага края тады называлася Асхабад). У маі 1918 года стаў ваенным камісарам Закаспійскага края, лічы, усяе сучаснай Туркменіі. Праз нейкі час перамагла контррэвалюцыя. Разам з іншымі ў палон захапілі і Сяргея Малібожку. У складзе дзевяці ашхабадскіх камісараў нашага земляка расстралялі. Праз многа гадоў у Ашхабадзе пабачыць свет кніга лунінеччаніна Міколы Калінковіча "Не обрывается земная связь". Сярод іншых твораў ёсць у гэтай кнізе і дакументальная аповесць пра Сяргея Малібожку.

У Труханавічах нарадзіўся празаік Ян Скрыган. Ён — адзін з тых, хто прымаў у 1920-ыя гады самы актыўны ўдзел у стварэнні літаратурнай арганізацыі "Маладняк". Ён быў сярод вялікай партыі беларускіх пісьменнікаў, высланых у 1936 годзе. А ў Беларусь вярнуўся толькі ў 1955 годзе. Працаваў загадчыкам літаратурна-кантрольнай рэдакцыі выдавецтва БелСЭ. За ўдзел у стварэнні 12-томнай Беларускай Савецкай Энцыклапедыі ўганараваны Дзяржаўнай прэміяй БССР. А галоўная спадчына Яна Скрыгана — яго высокамастацкая проза, кожная старонка якой з'яўляецца школай для наступных пакаленняў беларускіх празаікаў.

Капыльшчына — радзіма пісьменнікаў Кузьмы Чорнага, Алеся Адамовіча, Алеся Ветаха (у вучоным свеце — доктар філалагічных навук Алесь Бельскі), Міколы Хведаровіча, Васіля Сташэўскага, Нічыпара Чарнушэвіча… І, мажліва, не за гарамі той час, калі ў старжытным паселішчы з'явіцца асобны літаратурна-мастацкі музей. Хацелася б, каб спадзяванне гэтае збылося як найхутчэй.

© В поисках утраченного

Паштоўкі з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава

ЗАХАПЛЕННІ

# Майстар і Маргарыта

Размова не пра герояў вядомага рамана Міхаіла Булгакава, а пра нашых сучаснікаў, якія жывуць побач. Гэта — жыхары Дзяржынска, што на Міншчыне, Андрэй Міхайлавіч Мартынюк, інжынер па электрасувязі, і яго жонка Маргарыта Станіславаўна, выкладчыца ў Дзяржынскай дзіцячай школе мастацтваў. Яны любяць поўнавартаснае жыццё, працу, выхоўваюць сыноў Аляксандра і Арцёма...

Лявон Целеш

Звычайная беларуская сям'я. Але ў нечым незвычайная. У гаспадара сям'і незвычайнае хобі: ён і сучасны Кулібін — майстар па вырабу драўляных гадзіннікаў без адзінай металічнай дэталі, а таксама сучасны Страдзівары ці Амаці — майстар-самавучка па вырабу цудоўных па гучанню і прыгожых па знешняму афармленню музычных інструментаў — скрыпак і гітар. Некалі, у дзяцінстве, бацька падарыў яму дыяфільм аб выдатным рускім механіку-вынаходніку, майстру арыгінальных гадзіннікаў Іване Кулібіне. З тых часоў мара аб стварэнні драўлянага гадзінніка засталася ў Андрэя Міхайлавіча на ўсё жыццё. 13 гадоў таму, калі Андрэй з Маргарытай пераехалі з Магілёва на сталае жыццё ў Дзяржынск і калі Андрэй Міхайлавіч сваімі рукамі і па свайму праекту збудаваў дом для сваёй сям'і, яго дзіцячая мара пачала ажыццяўляцца. Для пачатку ён скончыў курсы гадзіншчыкаў, дэталёва вывучыў працы вядомых майстроў гадзіннікаў, у тым ліку Кулібіна і Леанарда да Вінчы. Прайшоў некаторы час — і вось першы поспех. Гэты драўляны гадзіннік і цяпер вісіць на сцяне пакоя побач з пазней выраблёнымі. Ён выдзяляецца памерамі супраць іншых, магчыма, не вельмі дасканалы, але Андрэй Міхайлавіч любіць гэты гадзіннік больш за ўсіх — гэта яго першынец. Затым Андрэй Міхайлавіч змайстраваў серыю драўляных гадзіннікаў пад назвай "Краіны і кантыненты". Сярод іх — гадзіннікі з кітайскай стылістыкай і вершамі кітайскіх паэтаў, выкананых іерогліфамі на гірцы. Ёсць у гэтай серыі і гадзіннікі "Расія", "Рым", а таксама гадзіннік, аздоблены беларускім нацыянальным арнаментам. А ў настольным гадзінніку нават спружына драўляная, зробленая з бамбуку. Дакладнасць ходу гэтых выдатных гадзіннікавых вырабаў — ўсяго плюс-мінус хвіліна ў месяц. Частка яго гадзіннікаў ужо знайшла гаспадароў у Польшчы, Славеніі, ва Украіне, у Маскве, Санкт-Пецярбургу. Па заказу з Масквы праз інтэрнет Андрэй Міхайлавіч змайстраваў багата інкруставаную з кодавым замком драўляную шкатулку. Ягонымі ж таленавітымі рукамі зроблены і унікальны драўляны грамафон, пад які любілі танчыць нашы бабулькі і дзядулькі.


Андрэй Мартынюк вырабляе сваімі рукамі скрыпкі, а Маргарыта з задавальненнем апрабоўвае іх на гучанне

Але ж гэта не ўсё, чым славіцца майстар-самавучка Андрэй Міхайлавіч. Ён таксама і выдатны майстар па вырабу цудоўных па гучанню і знешняму афармленню скрыпак і гітар. У Дзяржынску вялікую папулярнасць набыў сярод іншых шматлікіх ансамбляў і музычны ансамбль "Пілігрымы", музычным кіраўніком якога з'яўляецца жонка майстра — Маргарыта Станіславаўна. У складзе музычнага калектыву таксама іх абодва сыны — Аляксандр і Арцём, а глава сям'і выконвае функцыі гукааператара. Як кажуць, "Бацька, маці і я — музычная сям'я". Усе музычныя інструменты ансамбля зроблены рукамі Андрэя Міхайлавіча. З гэтым ансамблем азнаёміліся ўжо жыхары Мінска, Слоніма, а 3 ліпеня ансамбль выступіў на святочным канцэрце, прысвечаным гадавіне вызвалення Беларусі, у парку адпачынку Дзяржынска.

Дарэчы, усю мэблю ў пакоях свайго дома Андрэй Міхайлавіч зрабіў сам. Напаследак нашай сустрэчы ён азнаёміў мяне са сваёй майстэрняй, дзе вырабляе такія дзівосныя рэчы. Я звярнуў увагу і на фігурку ўмацаванага на даху майстэрні Дон-Кіхота, нечым падобнага на свайго гаспадара-умельца. Андрэй Міхайлавіч сказаў, што гэта яго любімы літаратурны герой. Так, яны падобныя, гэтыя асобы, якія прыносяць людзям цеплыню сваёй душы, з каго можна браць прыклад у жыцці.

З даўніх часоў наша краіна славілася сваімі выдатнымі майстрамі: гэта і старажытны мсціслаўскі майстар Сцяпан Палубес, які некалі ўпрыгожваў маскоўскія храмы і палацы, і прадзед Марка Шагала — Сегал, які распісваў храмы і сінагогі Слуцка, Магілёва, і адзін з першых вынаходнікаў падводнага карабля Казімір Чарноўскі, шмат іншых нашых умельцаў. Яны ёсць сярод нас і сёння. І Андрэй Міхайлавіч дастойны прадаўжальнік добрых спраў нашых продкаў-умельцаў.

# Лісты з векапомных 40-х...

**Унікальныя маркі часоў Вялікай Айчыннай вайны прадстаўлены на выставе ў Мінску**

VI Нацыянальная філатэлістычная выстава "БЕЛФІЛА-2009" праходзіць у Нацыянальным мастацкім музеі. Экспазіцыя прысвечана 65-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

На выставе прадстаўлена 77 калекцый з Беларусі, Азербайджана, Германіі, Латвіі, Літвы, Расіі, Польшчы і Украіны. Тэме Вялікай Айчыннай вайны прысвечаны цэлы шэраг калекцый, якія раскрываюць многія аспекты і этапы гэтага драматычнага перыяду гісторыі: "Палявая пошта 1941–1945 гадоў", "Пошта Ленінградскай блакады", "Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне" і многія іншыя.

Унікальнасць гэтай падзеі таксама ў тым, што ўвазе публікі прадстаўлены такія рарытэты, як лісты з фронту і акупіраваных тэрыторый. Як адзначаюць арганізатары, выстава заклікана паказаць сувязь пакаленняў, адлюстраваную ў такім творы мастацтва, як паштовая марка.

На выставе ў музеі адбыліся прэзентацыя паштовага блока "65-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў" і спецыяльнае гашэнне на канверце "Першы дзень".


БЕЛТА
На выставе – сапраўдныя рарытэты

ПРА ШТО СЛОВА ГАВОРЫЦЬ

# Загадкавасць летняй пары

**Лета — час ягад, грыбоў і іншых дароў прыроды. Трэба адзначыць, што ў беларускай мове іх назвы маюць рознае паходжанне. Таму прапаную разабрацца.**

Усім нам знаёмыя гаркаваты смак і калючыя зараснікі ягад, падобных па форме да малін. Яны вабяць да сябе, але збіраць іх нялёгка. Гэта **ажыны**. Для параўнання: у рускай мове для абазначэння гэтых ягад ужываюць як слова **ежевика**, так і **ожина**. Цікава, што паходжанне назоўніка **ажына** звязваюць са словам *вожык*.

У многіх у садах растуць **парэчкі** — жоўтыя, чырвоныя, чорныя. Назва ягад узыходзіць да слова *рака*. Бо ў дзікім выглядзе парэчкі растуць менавіта па берагах рэк. У беларускую мову назва трапіла, хутчэй за ўсё, з польскай і выцесніла ўсходнеславянскую **смородина**.

Летам мы любім паласавацца **агрэстам**, або **крыжоўнікам**. Абедзве назвы не славянскія, запазычаныя. Даследчык М. Фасмер лічыць, што слова крыжоўнік — калька з нямецкага, якое мае значэнне "Хрыстоў цёрн".

Цікавая гісторыя звязана з **малінамі**. Пры вывучэнні назвы гэтых ягад выяўляецца парадокс. Слова *маліны* існавала яшчэ ў праславянскай мове. І першаснае яго значэнне, як не дзіўна, — "чарніцы". Доказваецца гэта тым, што ў розных мовах, напрыклад, латвійскай, літоўскай, старажытнагрэчаскай, аналагічнае слова мела значэнні "чорны, сіні, блакітны". Паходжанне назоўніка *маліны* звязваюць з праславянскай асновай *malъ* са значэннем "малы", бо ягада маліна складаецца з дробных часцінак.

***

Не кожны арыентуецца ў адметных беларускіх назвах прафесій, якія нярэдка сустракаюцца ў літаратуры. Многія блытаюць, напрыклад, **грабара** і **гарбара**, **маляра** і **муляра**. Каб не ўзнікала пытанняў, прыгадаем названыя і некаторыя іншыя прафесіі. **Грабар** — гэта *землякоп*, і **грабарства** — адпаведны промысел. **Гарбар** жа *спецыяліст па перапрацоўцы скуры*. Дзве наступныя прафесіі звязаны з будаўніцтвам. Так, **муляр** — ад слова *мур* (у сэнсе "сцяна") — гэта па-іншаму, *каменшчык, той, хто ўзводзіць сцены*. А **маляр** сцены фарбуе.

Усе мы ведаем, што пячная труба мае назву *комін*. І раней была распаўсюджана прафесія **камінар**. Гэта той, хто коміны чысціць. У літаратуры часта згадваецца прафесія **каморнік**. Нагадаю, што **каморніцтва** — гэта землямерная справа. Беларуская мова тоіць шмат загадак. Карыстайцеся яе багаццем спаўна і вывучайце сваю спадчыну!

Вераніка Бандаровіч

Заснавальнік: Рэдакцыя газеты «СБ»
Рэдактар Віктар Харкоў
Адрас: пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61
Тэлефон рэдакцыі: +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
Бюро па рэкламе: Тэл. +375 17 290—60—11
E-mail: golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009.
Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск.
Аб'ём выдання: 1 друк. арк.
Тыраж: 2000
Заказ: 798